МАС-МЭДЫЯ

# ЧАЦЬВЁРТАЯ ЎЛАДА

Тацьцяна ПАПОВА

**Адным з фактараў дэмакратычнасьці дзяржаўнага ладу ва ўсім сьвеце ёсьць уплывовасьць й высокі ўзровень разьвіцьця сыстэмы сродкаў масавае інфармацыі. Па колькасьці газэт, часапісаў, радыёстанцый ды тэлеканалаў Беларусь займае другое месца ў Эўропе. З канца, пасьля Альбаніі.**

Сьціпленькі рынак мас-мэдыя пакідае чытачу небагаты выбар. Дзяржаўныя выданьні набываюць па звычцы ці з прычыны іх нізкіх коштаў (якія забясьпечваюцца бюджэтнымі датацыямі ды льготнымі тарыфамі на друк і распаўсюджаньне). Незалежная ад лукашэнкавае кармушкі прэса змушаная прадаваць свае наклады ніжэй сабекошту.

Увагу неабыякавага да грамадзка-палітычнага жыцьця сваёй краіны чытача можа прыцягнуць толькі сэнсацыя ці надзвычайны выпадак. Апошняй шумнай падзеяй у Беларусі сталіся парлямэнцкія выбары. «Цэнтар за свабоду слова на карысьць дэмакратыі» праводзіў маніторынг беларускае прэсы й тэлепраграм на працягу трох месяцаў, што папярэднічалі прымусоваму волевыяўленьню народа адносна сваіх новых прадстаўнікоў у Нацсходзе.

Колькасьць газэт, што прапануюць шапікі Белсаюздруку й Белпошты, заціснутая ў цесныя рамкі абмежаванасьці тэматычнага й пазыцыйнага выбару. 88 адсоткаў месца на палітычных палосах «Советской Белорусии», «7 дней» ды «Рэспублікі» аддаецца пад матэрыялы, прысьвечаныя Лукашэнку й іншым уладнікам.

Апазыцыя згадваецца ўдзесяцёра радзей, прычым нэйтральных матар'ялаў аб ёй амаль няма. Найчасьцей аб дэмакратах пішуць паблажліва ці зь іроніній. Заблукаўшых апазыцыйных авечак часам згадваюць і добрым словам, але толькі ў выпадку, калі тыя ўрэшце натрапілі на слушны шлях падпарадкаванасьці прэзыдэнцкім правілам гульні. Адносныя вынікі маніторынгу кожнай з гэтых газэт не маюць істотных адрозьненьняў. Дзяржаўныя выданьні ёсьць нібыта аддзеламі аднаго вялікага й скіраванага на дасягненьне аднае мэты мэдыяўтварэньня.

Прафэсыйная журналістыка патрабуе змаганьня за чытачоў, а значыць, задавальненьня розных густаў. Незалежны друк праяўляе варыятыўнасьць у тактыцы свайго ўзьдзеяньня на аўдыторыю. На двух трацінах плошчы *«Народнае волі»* ўслаўляюцца беларускія апазыцыянэры. *«Белорусская деловая газета»* большай часткай (70 адсоткаў) сваіх артыкулаў выкрывае злачынствы ўлады. Па іх меркаваньні, роля прыхільнікаў Лукашэнкі ў палітычным жыцьці краіны значна больш істотная ў параўнаньні з апазыцыйнай чыннасьцю, пра якую распавядаецца толькі ў 25 адсотках матэр'ялаў БДГ.

Местачковая журналістыка кампэнсуе недахоп прафэсыяналізму радыкальнасьцю сваіх пазыцый. Віцебская *«Заря»* жорстка разьмежавала адмоўныя матэр'ялы, прысьвечаныя апазыцыянэрам, і станоўчыя (у скрайнім выпадку нэйтральныя) артыкулы пра геройствы ўлад. *«Віцьбічы»* старанна ствараюць свой імідж аб'ектыўнага дзяржаўнага выданьня. Збалянсаванасьць інфармацыі выяўляецца ў роўнасьці аб'ёмаў аб уладзе й апазыцыі. Асобным аб'ектам маніторынгу на палосах гэтае газэты можна вылучыць партыі й іх лідэраў. Яны пакуль ня ёсьць прадстаўнікамі ўлады, але й з апазыцыяй сябе не атаясамліваюць. Зноў жа, за пэрыяд маніторынгу гэта газэта ані слоўцам не абразіла сваіх дзяржаўных карміцеляў і не дала ніводнае пазытыўнае ацэнкі дзейнасьці апазыцыянэраў. Надварот, рэкордна вялікая колькасьць бруду, пэўне па звычцы, на ўсялякі выпадак, была вылітая на бясшкодны ў перадвыбарнай кампаніі БНФ.

Пасьлядоўную антыўрадавую лінію гнуў на працягу пэрыяду маніторынгу *«Віцебскі кур'ер»*. Шмат для каго ён можа стацца прыкладам узорнае апазыцыйнае прэсы, бо мае паказальнікі, процілеглыя вынікам маніторынгу *«Рэспублікі»*. Але гэтыя выданьні нельга паставіць на адну дошку з-за розьніцы тэрыторыі й маштабаў распаўсюджанасьці, а значыць, і сфэраў узьдзеяньня на чытацкую аўдыторыю.




*«Брэсцкі кур'ер»* выдзяляе прыкладна аднолькавыя плошчы для аналізу дзейнасьці ўлады й апазыцыі, але ў матэр'ялах аб прапрэзыдэнцкіх структурах ён намагаецца бараніць інтарэсы сваёй аўдыторыі. Пра ўладу ён піша або нэйтральна, або ўздымаючы ўсе хібы кіруючых беларусамі асоб. Старонкі гэтага выданьня могуць пахваліцца аб'ектыўнасьцю ў дачыненьні й да апазыцыі. У залежнасьці ад учынкаў лябедзькаў, вячоркаў ды іх прыхільнікаў, газэта друкуе станоўчыя, нэйтральныя, а часам і адмоўныя матэр'ялы.

Беларускае тэлебачаньне стала ўтрымлівае дзяржаўную манаполію на распаўсюд тэлеінфармацыі. Яно кантралюе працэс рэляксацыі грамадзян перад сном. Разьвітаўшыся з Маляванычам і Даўгавушкам, дзеткі ідуць у ложкі, а іх надзеленыя правам голасу бацькі глядзяць *«Панарамы»* й *«Рэзанансы»*.

Героямі 78-мі адсоткаў сюжэтаў АТН у кастрычніку былі прэзыдэнт й уладныя структуры, 16 адсоткаў эфірнага часу прысьвячалася апазыцыянэрам і 6 адсоткаў – каб разбавіць камплемэнтарнасьць – праўрадавым партыям ды іх лідэрам. Для параўнаньня, у верасьні пра Лукашэнку, апазыцыянэраў і партыі, што жадалі б пралезьці ва ўладу, БТшнікі паказалі адпаведна 81, 17 і 2 адсоткі сюжэтаў. Уздым увагі да да партыяў у кастрычніку тлумачыцца частым пералікам прэтэндэнтаў на парлямэнцкія партфэлі.

Тое, што імёны прэзыдэнта й ягонай каманды ў верасьні не сыходзілі з вуснаў Казіяткі, Косьціна й іншых АТНаўскіх зорак, а постаці гэтых палітыкаў не зьнікалі з экранаў *«Гарызонтаў»*, не столькі стварала добры грунт для апошняга этапу дэпутацкае кампаніі, колькі забясьпечвала пасьпяховасьць пачатковага пэрыяду перадвыбарнае агітацыі Лукашэнкі. Беларускі лідэр у самы гарачы перадвыбарны час згадваўся на тэлебачаньні ў 8 разоў часьцей за старшыню Цэнтарвыбаркаму Ярмошыну, у дзесяцёра часьцей за невядома чаму ўпадабаную БТшнікамі кандыдатку Абрамаву, у 64 – за паўсюднага Красуцкага (таксама кандыдата) й у 139 – за палатніка-вэтэрана Малафеева. Нават спрэчныя паводзіны Статкевіча камэнтаваліся АТНаўцамі ў 113 разоў менш інтэнсыўна, чым бацькавы подзьвігі.

Стваральнікі беларускіх тэленавін працавалі ў звышнапружаным тэмпе. Падрыхтоўка большае часткі хранамэтражу вымагала штодзённага вандраваньня карэспандэнтаў па заводах і калгасах, цяганьня з сабою цяжкое апаратуры. Затое тэксты тэлежурналістам можна было амаль не пісаць. Прадстаўнікі ўлады выказваліся ад першае асобы. Асьвятленьне дзейнасьці апазыцыі не патрабавала столькі клопатаў. Пад рукой рэдкалектыву заўжды была адна й тая ж плёнка з запісам Маршу свабоды 17 кастрычніка мінулага году. Яе пракручвалі ў запаволеным тэмпе, пакуль адзін з практыкантаў начытваў тэкст, напалову перадраны ў ранейшых асьвятляльнікаў апазыцыйнае тэматыкі.

У выніку, матэр'ялы, прысьвечаныя ўладам, набывалі станоўчую ці захоўвалі нэйтральную афарбоўку. Амаль усе сюжэты пра апазыцыю былі зьдзекліва-нэгатыўнымі. Невялікая колькасьць пазытыўных паказальнікаў, зафіксаваных на графіках мэдыя-маніторынгу тлумачыцца прыхільнасьцю БТ-шнікаў да абрамаўскага «Яблыка», якое першапачаткова было прылічанае маніторамі да апазыцыйных структур.

У міжвыбарны пэрыяд не даводзіцца казаць аб паслабленьні ролі мас-мэдыя як асноўнага сродку агітацыі й прапаганды. Аб'ектыўнасьць паведамленьняў і камэнтароў да падзей абавязкова адаб'ецца на выніках галасаваньня спажыўцоў мэдыяпрадукцыі. Калі тэндэнцыі, зафіксаваныя ў дасьледваньнях «Цэнтру за свабоду слова на карысьць дэмакратыі», захаваюцца й надалей, не складана спрагназаваць будучыню прэзыдэнцкае пасады ў Беларусі.

«Рэспубліка»

праўрадавыя арганізацыі і іх лідэры 2%

апазыцыя 3%

прэзідэнт і ўладныя структуры 95%

МОЛАДЗЬ

# Пачні зь сябе

Аляксандар КАВАЛЬСКІ

**Не зусім ўдалы дэбют маладзёвай кааліцыі «Пераменаў!» прымушае задумацца над тым, чым сёньня ёсьць маладзёвы рух у Беларусі, чаму ў іншых краінах студэнцтва зьяўляецца авангардам рэформаў, а ў нас саўковым адстойнікам.**

Упершыню пра маладзёвы рух пачалі гаварыць у 1996 годзе, калі большасьць на трыццацітысячных дэманстрацыях складалі студэнты. Тады гэта была пакуль яшчэ не аформленая палітычная сіла, прывабленая да акцыяў пратэсту іхным унутраным карнавальным характарам. Для моладзі шэсьці й мітынгі, кіданьне камянёў у амапаўцаў былі, хутчэй, своеасаблівымі *«праздниками непослушания»*, рымскімі сатурналіямі й мардзі грасам у адным фляконе. Палітычная складовая гэтых мерапрыемстваў стаяла на другім месцы.

Самі ж пра сябе як пра самастойную сілу маладыя заявілі ў 1997 годзе, калі правялі першую акцыю без дарослых у дзень сьвятога Валянтына. На хвалі гэтага ды падобных выступленьняў паўстаў *Малады фронт* і ягоны лідар, *ды-джэй Адраджэньня*, Павал Севярынец. З таго часу беларускі маладзёвы рух ператвараецца ў адну з маладзёвых субкультур, кшталту рэпераў, рэйвераў, ультрас ды іншых. Для яго, як і для астатніх, характэрныя свае фенечкі, слэнг, ідэалы, музычныя ідалы. Адзінае адрозьненьне палягала ў сфэры палітызаванасьці гэтай маладзёвай тусоўкі.

Субкультурны этап беларускасьці быў неабходны й карысны ў нашых умовах, калі ўся моладзь вырасла ў расейскамоўным атачэньні, калі родную беларускую мову вывучалі як замежную ў школе, і праз школу прывіваўся комплекс непаўнавартасьці беларускае культуры.

Толькі ў досыць сьвядомым узросьце частка моладзі адкрывала для сябе замест школьнапраграмнага беларускага эрзаца сапраўднае багацьце роднае культуры. Для большасьці ж беларускасьць па-ранейшаму асацыявалася з тым паскудствам, якое прымушалі спажываць на ўроках мовы й літаратуры. Стварэньне прывабнага вобразу беларускасьці для моладзі стала першачарговай задачай, задачай складанай, бо прыходзілася ламаць стэрэатыпы аб архаічнасьці й фальклёрнасьці ўсяго беларускага. Зьяўленьне маладзёвай палітычнай субкультуры сьведчыла пра першыя посьпехі на гэтым шляху.

Затуханьне маладзёвых пратэстаў пасьля 1997 году й відавочны правал акцыі 12 лістапада ў Менску сьведчыць пра крызу старой адраджэнскай парадыгмы. Субкультура па вызначэньню ня можа ахапіць усю культурную прастору. Датычна маладзёвага палітычнага руху усё гэта значыць, што трэба зноўку ісьці ў народ, асвойваць іншыя субкультуры, адчыняць іх для сябе й адначасова самім станавіцца адкрытымі для іх.

Стаўка некаторых быццам бы маладых лідараў на «пінжакі й камуфляж» (інтэлектуалаў і баевікоў), замыканьне ў псэўдаэлітарнасьці ёсьць тактыкай пазаўчорашняга дня, тактыкай няўдачнікаў, хранічных лузераў (losers), як кажуць амэрыканцы. Кааліцыя «Пераменаў!», якая на дзьве трэці складаецца з тусовак, чыя дзейнасьць нацэлена й абмяжоўваецца фандрайзінгам (разьвядзеньнем замежных фондаў на гранты), павінна пачаць перамены зь сябе. Інакш яе чакае лёс іншай кааліцыі – *Маладой Беларусі* – аб якой зараз, мабыць, ніхто й ня памятае.

Моладзь ужо не вядзецца на старыя лёзунгі й прыёмы. Радыкальнае змаганьне за Беларусь, кіданьне камянямі, штурм амапаўскіх шэрагаў, адсідкі на Акрэсьціна ніколі ня стануць прывабнымі для ўсіх. Страціў сваю актуальнасьць і вобраз самаахвярнага рэвалюцыянэра-аскета, апантаннага барацьбіта, біблейскага прарока. Яго месца займае другі архетып – культурны герой, кшталту Прамэтэя. Грэцкага тытана людзі палюбілі не за тое, што ён змагаўся супраць багоў, а за тое, што ён падараваў ім агонь. Для тых часоў гэта было раўназначна дараваньню культуры, выхаду зь дзікасьці, рэзкаму пашырэньню далягляду.

Такі ж якасны скачок у нашых умовах значыць пашырэньне беларускага кантэксту на ўсе праявы культуры, яе выхад з эстэтычнай рэзэрвацыі, намі ж і акрэсьленай: змаганьне, піва, рок-н-рол. Чаму ня штосьці іншае? Напрыклад, кіслата, рэйв і віртуальная прастора. У беларускасьці не павінна быць ніякіх эстэтычных межаў, калі мы жадаем, каб яна жыла й самаўзнаўлялася. Добра, хоць зараз беларускую эстэтычную аднастайнасьць парушаюць анархісты з *«Чырвонага жонда»* ды сэксуальныя меншасьці Эдзіка Тарлецкага.

ФИЛОСОФИЯ

# Выбор делает экзистенция

Алесей МАКОВЕЦ

**Немногие в Беларуси слышали имя французского философа Жана Поля Сартра. Еще меньше людей знакомо с его концепцией человеческой свободы.**

### Личность в царстве безличия

Тридцатые годы были мрачноватым временем для европейских интеллектуалов. Первая мировая война похоронила иллюзию единства научно-технического прогресса с общественным. На смену традиционному человеку аграрной культуры пришел массовый, стандартизированный человек конвейера.

Механистическое мировоззрение не только устранило человека из центра вселенной, но и удалило из нее Бога. Религия уже не играла той роли, что в прежние времена. Многое в духовном пейзаже Европы между двумя мировыми войнами напоминало нынешнее белорусское уныние. Человек, отторгнутый от потустороннего мира смыслов, очутился в мире обезличенных, штампованных вещей.

На волне механицизма, стандартизации и религиозного кризиса набирают силу тоталитарные режимы. Малочисленные и дезориентированные, невостребованные промышленной толпой, интеллектуалы предчувствуют наступление катастрофы. Их предчувствия сбываются – Дахау, Освенцим, ГУЛАГ, новая мировая война.

### Экзистенциализм. Мир только задан

Как быть свободной личности в этом мире безликих вещей и людей? Что составляет основу человеческой свободы? Варианты ответа на эти вопросы предложил экзистенциализм – философское течение, популярное среди интеллектуалов первой половины двадцатого века.

Базовым в философии экзистенциализма выступает принцип: существование предшествует сущности. Мир не дан человеку, как и человек не есть нечто раз и навсегда законченное. Мир задан в своих возможностях, мир есть история. Мир вокруг твориться в каждом новом акте человеческого выбора.

Философия экзистенциализма пыталась разрешить проблемы одинокой, автономной личности, противостоящей враждебному миру. Враждебный мир – это бездумная человеческая масса, навязывающая свои предрассудки и образ жизни. Это лишенный религиозного измерения мир бессмысленных вещей и происшествий. Это бюрократическая машина, действующая по своим законам вне какой-либо человеческой логики.

Заслуга экзистенциалистов – в осмысление возможностей человеческой свободы в мире, созданном индустриальной цивилизацией. Результаты духовных поисков экзистенциалистов оказались широко востребованы. Уже после Второй мировой войны французские философы-экзистенциалисты занимают почетное место среди предтеч контркультурной революции шестидесятых. А среди них особняком выделяется Жан Поль Сартр.

### Выбирать приходится

В своих произведениях Жан Поль Сартр достаточно четко обосновал тезис о человеческой свободе. Человек в здравом уме и трезвой памяти всегда совершает выбор; выбирать приходится постоянно. Уже сам факт того, что мы живем, означает, что мы делаем выбор в пользу жизни, а не самоубийства.

Сартр показывает: действие или бездействие равнозначны. В любом случае человеку приходится иметь дело с последствиями как совершенного поступка, так и несовершенного. Бездействие – то же самое действие. Его последствия и есть тот самый мир, что станет объективной данностью в следующую минуту.

Основной вывод философии Сартра: человек свободен выбирать, но ответственность за выбор всегда лежит на нем. Нельзя уйти ни от ситуации выбора, ни от ее последствий. Отказываясь выбирать, предпочитая плыть по

➲ Окончание на стр. 6

АРХИВ

# 1999 — год исчезновений

Игорь ВОЛЯНИК, Александр КАВАЛЬСКИЙ

**Дембель-99.** 20 июля не стало первого президента Республики Беларусь. То есть он, конечно, не умер, но перестал быть президентом страны, оставшись лишь президентом Национального олимпийского комитета. Об этом Лукашенко недвусмысленно напомнила оппозиция. Наиболее зрелищно это выглядело в исполнении самого эпатажного художника Беларуси Алеся Пушкина. С утра пораньше художник подкатил к резиденции на Карла Маркса, 38 тележку с навозом, плакатами Лукашенко, купюрами белорусских рублей, наручниками и другими символами режима и вывалил все это на глазах изумленных милиционеров прямо возле входа. Перфоманс назывался *«Падзяка ППРБ за пяцігадовую кіпучую цяжкую выніковую працу дзеля народа»* и заслужил наивысшие оценки судей – два года условно по ст. 201 ч.2 УК.

Продолжением всенародного ликования по поводу окончания президентских полномочий стало заседание в здании филфака БГУ Верховного Совета, где было принято решение о назначении Виктора Гончара первым заместителем спикера. (Если бы в соответствии с Конституцией Семен Шарецкий принял полномочия президента, а не сбежал в Литву, то Виктор Гончар автоматически возглавил бы ВС). Новый вице-спикер вышел к митингующим сторонникам и сообщил, что отныне гражданин Лукашенко перестал быть президентом. Гулянье продолжилось на Октябрьской площади. Более полусотни человек были задержаны милицией.

**Desaparecidos.** Беларусь все больше напоминает латиноамериканскую страну не только обилием бананов, но и таинственными исчезновениями виднейших политиков. Первой пропала Тамара Винникова. Причем исчезла не просто так, а из-под домашнего ареста. С самого начала ходили слухи, что ее выкупили у спецслужб родственники. Косвенно это подтвердилось в конце года, когда экс-банкирша вдруг объявилась и начала раздавать интервью белорусской и зарубежной прессе.

Следующим исчезнувшим стал экс-министр внутренних дел Юрий Захаренко, а в сентябре по дороге из бани домой пропал Виктор Гончар со своим другом бизнесменом Анатолием Красовским. Президент тут же озвучил версию, что Гончара украли бандиты, дававшие ему деньги на президентские выборы, и которым он эти деньги не вернул. Но гораздо правдоподобнее была версия, что в стране запахло эскадронами смерти. Тем более, что и за Захаренко, и за Гончаром ходила наружка. Она не могла не видеть похищений.

**Поговорили – и хватит.** КНГ ОБСЕ пытается заставить власть и оппозицию пойти на взаимные уступки и начать переговоры о выходе из политического тупика. Власть не собирается ни с кем договариваться, а оппозиция не желает участвовать в косметическом ремонте режимного фасада. Внимание международных структур все-таки заставляет начать консультации между экспертными группами власти и демсил.

Договорились до предоставления демократической оппозиции доступа к монополизированным государством средствам массовой информации. Предполагалось выделять несколько минут эфира на БТ, на радио, даже в районках должна была появиться колонка демократов. Но договорились об этом только с уполномоченным вести консультации со стороны президента Михаилом Сазоновым. Сам же Лукашенко в очередной раз продемонстрировал, кто в доме хозяин, и отказался от всех договоренностей.

Весь год белорусский вопрос был одним из важнейших в повестке европейских саммитов, и только на Стамбульской встрече ОБСЕ он остался в тени возобновившейся войны в Чечне.

**Союз нерушимый.** Недолгую историю Содружества России и Беларуси (1996) сменила также непродолжительная история Союза России и Беларуси (1997). Не выдержав двухлетнего творческого застоя, президенты двух стран подписали очередной союзный договор. Чтобы заинтриговать публику банальным событием, гражданам двух стран сначала было предложено всенародно одобрить проект союзного устава (кстати говоря, именно этот проект, «*обсужденный*» и «*одобренный*», никто потом не подписал). Затем дедушка Ельцин заставил поволноваться своего молодого спортивного коллегу, отложив встречу из-за болезни почти на две недели. В итоге, чтобы не повторяться, подписанный документ назвали договором о намерении создать союзное государство.

По-своему понимая интеграцию, 3 июля, в лукашенковский день независимости, вооруженные пневматическим оружием и муляжами автоматов члены юношеского военно-патриотического клуба «Беркут» из Сургута захватили белорусскую деревню Николаевка. Жителей деревни избили, связали, согнали к школе. С сельсовета был сорван государственный красно-зеленый флаг, а на его место повешен андреевский. Так русские патриоты имитировали освобождение нашей деревни от немцев.



МУЗЫКА

# ЯГО ВЯЛІКАСЬЦЬ ДЖАЗ

Глеб РУБАНАЎ

**Джазавы фэст, што адбыўся ў Менску, стаў сапраўднай падзеяй культурнага жыцьця Беларусі. На тры дні сцэну Цэнтральнага дому афіцэраў акупавалі прадстаўнікі розных краінаў, розных джазавых плыняў, розных школаў выкананьня. Аб'ядноўвалі іх прафэсыйнасьць і... яго вялікасьць ДЖАЗ.**

Адчынялі праграму гаспадары. Публіку вітала шырока разрэкламаваная «Камэрата». Унікальны калектыў, які шасьцю галасамі стварае паўнавартасную й насычаную музыку. Яго прафэсыйнасьць і дасканаласьць не выклікаюць сумневаў. Але шмат хто з публікі наракаў на выступоўцаў за залішні акадэмізм. Усё ж такі сапраўдны джаз – гэта найперш імправізацыя і нараджэньне музыкі ў шчыльным кантакце з заляй. Дарэчы, лёгкая хвароба на акадэмізм – адметная рыса беларускіх выканаўцаў. Усе астатнія (нават майстры сусьветнага кляса) выглядалі значна больш разьняволенымі. Што тычыць мэлядычнасьці й аранжыровак, то тут ніякіх пытаньняў няма – імя «Камэраты» ўсё ж такі нешта значыць.

Падчас выступу *«Второго приближения»* гледачы адзначылі ігру кантрабасыста Іванушкіна й пэркусыяніста Вано Абаліяні. Таленавіты музыкант уражваў публіку, атрымліваючы гукі з самых мудрагелістых інструмэнтаў. Увогуле, выступ калектыву адбыўся на належным узроўні. Экспэрымэнтальная манера ігры ў параўнаньні зь першай часткай выглядала даволі эпатажна. Агульныя ўражаньні ад творчасьці «Второго приближения» – пэўная элітарнасьць выкананьня ў спалучэньні з авангарднай формай.

### Лок і Бутман

Выступ у Менску знакамітага квінтэта Джо Лока й Ігара Бутмана стаў часткай гастрольнага турнэ калектыву. Сусьветна вядомыя музыканты за дзьве гадзіны канцэрту падаравалі слухачам сапраўдную Музыку.

Саксафаніст Ігар Бутман вядомы не толькі ў Эўропе, але й за акіянам, зь ім працаваў сам Гровэр Вашынгтан. Амэрыканец Джо Лок стварае непаўторную музычную атмасфэру з дапамогай незвычайнага інструмэнта – вібрафону. Разам зь імі робяць джаз Арцём Варонін (фартэп'яна), Віталь Саламонаў (кантрабас) і Эдуард Зізяк(бубны).

Выступ квінтэту дазволіў нават самаму далёкаму ад музыкі чалавеку зразумець, што такое джаз. Няма сэнсу пераказваць штосьці словамі. Гэта было шоу, у якім музыка нараджалася на сцэне. Яскравы бразільскі джаз з запальваючымі барабаннымі сола. Пяшчотная і сумная мэлёдыя «Брыльянты застаюцца назаўжды». Неўміручая музыка Дзюка Элінгтана. Локаўскія «Недзе нас чакаюць» і «Распуцін дэнс». Апошняя п'еса, як патлумачыў Бутман, была навеяна ўражаньнямі Джо Лока ад вандровак па Расеі.

### Сэнсацыя

У гэтым квартэце пяцёра чалавек. Пяцёра, таму што вакалістка Неда Маланавічутэ катэгарычна не жадае вылучацца з калектыву. *Neda Vilnius Jazz Quartet* гэта бліскучы авангардны джаз-праект. Ягоныя ўдзельнікі – вучні й паплечнікі майстра імправізацыі Ўладзіміра Чэкасіна. Менавіта гэты калектыў стаў адкрыцьцём і падзеяй усяго фестывалю. Тое што яны граюць – сплаў неверагодных рэчаў: блюзу, джазу й нават псыхадэлікі – аказвае неверагоднае ўражаньне на публіку. Экспрэсыўнасьць, найвышэйшая імправізацыйнасьць у спалучэньні зь бясспрэчным майстэрствам – вось непаўторная адметнасьць літоўскага калектыву.

Феерычная дзея на сцэне ўяўляла сабой нешта большае за звычайнае шоу. Гэта было яднаньне публікі й музыкантаў. Сола Вітаса Лабуціса на двух саксафонах адначасова. Віртуозны Алег Малакаедаў і гульня чыстым клявішным гукам ды складанымі электроннымі партыямі. Над усім гэтым неверагодна плястычны й моцны вакал Неды: то па-блюзаву шчыры й уражваючы, то імкліва імправізацыйны. Музыканты заваёўвалі слухачоў з кожнай партыяй, з кожным момантам.

Да яскравай энергетыкі музыкантаў не застаўся раўнадушным ніхто з гледачоў. Нават джазавыя рэтраграды й артадоксы былі ўражаныя выступленьнем літоўцаў. Майстэрства не ведае стылёвых межаў. У гэтай музыцы арганічна гучаць і тырольскія сьпевы, і дуэт флейты з саксафонам, і сола на тамтамах. Напрыканцы ўсе музыканты ўключыліся ў галасавую перапеўку. Малакаедаў і Лабуціс саліравалі на дзвюх трубах і двух саксафонах адначасова, а Неда скончыла апошнюю кампазыцыю цытатай з бітлоўскай «Хэй, Джуд!». Уражаная бліскучым выступам публіка адзінадушна патрабавала музыкантаў на біс.

### Фінал

Трыо Сяргея Манукяна – трэці найцікавейшы калектыў на фэсьце. Сам музыкант валодае трыма музычнымі сьпецыялізацыямі: бубнача, клявішніка й вакаліста. Разам зь ім граюць выдатны скрыпач Фэлікс Лакуні ды вядомы па выступе «*Второго приближения*» бубнач Вано Абаліяні. Тое, што выконвае трыо, – сумесь джаза й блюза з выразна амэрыканскім блюзавым вакалам. Але незалежна ад стылёвых характарыстык музыка на сто адсоткаў перадае сапраўдны джазавы дух.

Манукян выступаў увечары непасрэдна перад гала-канцэртам. Сонечная ўсьмешка, якую вакаліст дарыў слухачам, дух дабрыні і любові нарадзілі ў залі асаблівую атмасфэру. Публіка слухала затаіўшы дыханьне і выбухала аплядысмэнтамі пасьля кожнай мэлёдыі.

У гала-канцэрце прынялі ўдзел лепшыя беларускія джаз-калектывы. На ўзроўні выступілі «Камэрата» і малады, але перспектыўны «Дыліжанс». Цікавым было выступленьне калектыву Green Stream пад кіраўніцтвам Уладзіміра Бялова, са своеасаблівым жаночым вакалам і выразнымі басовымі партыямі. Але сапраўдны фурор зноў зрабіла Неда, якая далучылася да музыкантаў *Green Stream*.

Варта было прыйсьці сюды хаця б дзеля такога фіналу. Пад шквал аплядысмэнтаў *RADO Jazz-2000* адышоў у гісторыю. Да сустрэчы праз год.

**P.S.** Праз хвіліну пасьля выступу мы размаўлялі з Недай Маланавічутэ за кулісамі. Сьпявачка, якая вызначыла твар усяго фестывалю, выглядала шчасьлівай і троху разгубленай.

*«Мы ня першы раз у Менску, і заўсёды нас прымаюць проста выдатна. У гэтым адрозьненьне ад Літвы, дзе ўсе ўжо прызвычаіліся да джазу. Гэта вельмі прыемна, калі людзі падыходзяць пасьля канцэрту й дзякуюць, і не шкадуюць кампліментаў. Я хачу пажадаць менскай публіцы, каб яна захоўвала гэтую цеплыню. Ведайце, мы заўсёды гатовыя прыязджаць у ваш горад. Хай толькі запрашаюць...»*

ФИЛОСОФИЯ

# Выбор делает экзистенция

*Окончание. Начало на стр. 5*

течению обстоятельств, человек выбирает отказ от выбора. В итоге, жизненные обстоятельства, внушающие ему страх, недовольство, отвращение, – его заслуга. Это тот самый мир, что он выбрал отказом от действия.

Человек ответственен за свою судьбу. Но, более того, и за судьбу всего мира.

### Иллюзорность несвободы

Неизбежность выбора определяет фатальный характер человеческой свободы. Выбор из возможных альтернатив всегда оставляет последнее слово за человеком. Ответственность нельзя ни на кого переложить, даже на Бога. От свободы некуда бежать. Отказ от свободы – тоже акт свободного выбора. У человека нет оправданий.

Актуальность философии Сартра и для послевоенного Запада, и для нынешней Беларуси – в разоблачении иллюзии несвободы. Из этой философии следуют интересные социологические выводы.

Социальная реальность не есть нечто самостоятельное и существующее вне индивидуума. Соглашаясь на мирное сосуществование с репрессивной системой, диктатурой, человек выбирает диктатуру. Жертва обстоятельств в той или иной степени оказывается их соучастником. Ситуация определяется личным выбором. Даже если выбор ограничен, он всегда есть. Французское сопротивление, битники, хиппи, диссиденты следовали этой максиме.



Жан Поль Сартр в одном из парижских кафе

### Плоды просвещения

Ныне экзистенциализм занял свое место в культурном архиве западной цивилизации. Положения некогда оригинальной философии усвоены коллективной памятью, вошли в подсознание культуры.

Когда передовой индустриальный Запад отошел от последствий второй мировой войны, проблема общей сытости была решена. И тут оказалось, что в сытом обществе масса недовольных молодых людей, озабоченных проблемой свободы. Столь милый белорусам идеал сытого брюха много кому не понравился. В экономически благополучной Америке и Западной Европе набирало силу контркультурное движение за свободную личность. А начиналось все гораздо раньше, не в сытые шестидесятые, под раскаты рок-н-ролла, а в тревожные тридцатые под джаз. Рок-н-рольщики только принимали эстафету.

Культурный бунт недовольных молодых людей повысил общий уровень либерализма в цивилизованном мире. Массовые выступления шестидесятых не изжили, но порядком смягчили репрессивный социальный контроль.

### Инакомыслящие

Люди Запада и модернизированного Востока теперь не особо озабочены политикой, система налажена. Но стоит системе дать сбой, повернуть против общества и свободы личности, население мобилизуется в масштабах, белорусам не снившимся.

В отличие от нас, цивилизованный мир куда как более серьезно усвоил идею индивидуальной ответственности за всеобщее положение дел. Мы, увы, только в начале этого пути. Мы все еще думаем и воспринимаем мир и себя в мире иначе, чем они. Показательный пример – устойчивость белорусского авторитаризма.

Белорусский режим слаб, но при этом достаточно прочен. Мало протестующих, нет протестующих радикально. Именно этот режим Беларусь выбирала все годы, начиная с избрания президента Лукашенко.

Александра Лукашенко мы сами выбирали. Он остается на президентском месте с истекшими полномочиями тоже не по воле судьбы, но с согласия белорусов же. Молчание – знак согласия. Невмешательство – вид вмешательства. Отказ от позиции – тоже позиция.

Белорусы – жертвы самих себя, никого больше. Недовольные из электорального болота не осознают: все происходит не вопреки, но согласно их воле. Выбор делается. В пользу недодиктатуры.

